# Голас Радзімы

№ 12 (2102)
23 сакавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






**У канцы студзеня ў Віцебску адбылася нягучная, але значная для нашай прамысловасці падзея — сышлі з вытворчага канвеера першыя пары абутку, вырабленыя на сумесным савецка-заходнегерманскім прадпрыемстве «Белвест», створаным разам з сусветнавядомай фірмай «Саламандэр». Сёлета будзе выраблена 500 тысяч пар мужчынскага і жаночага абутку 11 мадэлей. У наступным годзе выпуск павялічыцца да 1 мільёна 700 тысяч пар. Абутак будзе паступаць да віцебскіх, мінскіх, маскоўскіх пакупнікоў. Прадугледжваецца рэалізацыя прадукцыі і за межамі краіны.**

**НА ЗДЫМКАХ: на першым паверсе дома, дзе жывуць рабочыя прадпрыемства, размясціўся і фірменны магазін «Белвеста»; мадэлі абутку, якія выпрабляюцца на «Белвесце»; у пашывачным цэху прадпрыемства; Эберхард ЛУКАС — намеснік генеральнага дырэктара сумеснага прадпрыемства; зацяжніца Святлана САЎРЫЧ.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**







ПЛЕНУМ ЦК КПСС

## АБ АГРАРНАЙ ПАЛІТЫЦЫ

15—16 сакавіка ў Маскве прайшоў чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. На яго разгляд былі вынесены два пытанні. Першае — аб правядзенні выбараў народных дэпутатаў СССР ад КПСС. Другое—аб аграрнай палітыцы партыі ў сучасных умовах.

У ходзе работы Пленума было праведзена тайнае галасаванне. У выніку ўсе кандыдаты былі выбраны народнымі дэпутатамі СССР ад Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

З дакладам па пытанню аб аграрнай палітыцы партыі ў сучасных умовах выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, які пачаў сваю прамову з наступных слоў:

— Пленум павінен выпрацаваць і прапанаваць народу такую аграрную палітыку, рэалізацыя якой зможа адрадзіць селяніна як гаспадара на зямлі, надзейна вырашыць харчовую праблему. Далейшае прамаруджанне ў гэтай справе проста недапушчальнае.

М. С. Гарбачоў адзначыў:

— Рэчаіснасць такая, што прадукцыі сельскай гаспадаркі нам не хапае. Дзяржава вымушана рабіць за рубяжом буйныя закупкі збожжа, мяса, фруктаў, агародніны, цукру, алею і некаторых іншых прадуктаў.

Мы па-ранейшаму ўступаем развітым краінам—і вялікім, і малым—і па прадукцыйнасці працы, і па ўраджайнасці палёў, і па прадукцыйнасці жывёлы, і па разнастайнасці і якасці прадуктаў харчавання. Разрыў не скарачаецца, а ўзрастае.

Дэфіцыт прадуктаў харчавання ставарае сацыяльную напружанасць, выклікае не проста нараканні, а ўжо нездаволенасць людзей.

У дакладзе былі разгледжаны падыходы да аграрнай палітыкі на розных этапах развіцця нашага грамадства. Якія ж галоўныя ўрокі вынікаюць з усведамлення і ацэнкі мінулага?

Першае. Увесь вопыт сацыялістычных пераўтварэнняў у вёсцы з усімі дасягненнямі, набыткамі і велізарнымі стратамі пацвярджае вядучую ленінскую думку аб тым, што аграрная палітыка павінна быць накіравана на стварэнне такіх вытворчых адносін, такіх форм гаспадарання, якія б забяспечвалі селяніну трывалае становішча гаспадара на зямлі.

Другое. І аграрны сектар, і грамадства ў цэлым не могуць паспяхова развівацца без наладжвання эканамічна абгрунтаваных, справядлівых адносін паміж горадам і вёскай, паміж аграрным і іншымі сектарамі эканомікі. Тут любы перакос тоіць у сабе сур'ёзныя вынікі. Гэты вывад мае не толькі эканамічнае, сацыяльнае, але і палітычнае значэнне, бо размова ідзе аб саюзе рабочага класа і сялянства, аб лёсе сацыялізму.

Трэцяе. З самой сутнасці сацыялістычнага ладу вынікае неабходнасць дэмакратычных метадаў кіравання эканомікай, усімі грамадскімі працэсамі. А з гэтага вынікае непрымальнасць каманднаадміністрацыйнай сістэмы. Яе метады тым больш недапушчальныя ў сельскай гаспадарцы, якая мае справу з зямлёй, з прыродна-кліматычнымі ўмовамі, што адрозніваюцца вялікай разнастайнасцю.

Чацвёртае. Вельмі важна заўсёды бачыць жывую дыялектыку вытворчых адносін і прадукцыйных сіл у вёсцы. Надаючы першачарговае значэнне радыкальнай перабудове эканамічных адносін у галінах АПК, мы не можам забываць аб далейшым развіцці яго матэрыяльна-тэхнічнай базы. Асабліва сёння, калі навукова-тэхнічная рэвалюцыя захоплівае ўсе сферы матэрыяльнай вытворчасці, у тым ліку і сельскую гаспадарку.

Пятае. Важнейшы ўрок, які мы павінны цвёрда засвоіць, заключаецца ў недапушчальнасці пагардлівых адносін да ўмоў працы і быту сельскіх працаўнікоў. Аграрная палітыка, якую мы сёння выпрацоўваем, павінна ставіць у аснову асноў сапраўднае адраджэнне вёскі, каб селянін і сялянская праца занялі дастойнае месца ў грамадстве.

М. С. Гарбачоў падкрэсліў, што перабудова эканамічных адносін у вёсцы патрабуе перагляду — і ў тэорыі, і на практыцы—існуючых поглядаў на сацыялістычную ўласнасць.

Сёння размова ідзе аб прызнанні раўнапраўя розных форм сацыялістычнай уласнасці на сродкі вытворчасці і заснаваных на іх спосабаў вядзення гаспадаркі.

Мы павінны адкрыць шырокую дарогу самым разнастайным формам гаспадарання—і калгасам, і саўгасам, і аграфірмам, і агракамбінатам, і сялянскім, і асабістым падсобным гаспадаркам, і аграцэхам прамысловых, будаўнічых і іншых неаграрных прадпрыемстваў, і падсобным промыслам, і г. д.

Па-новаму неабходна падысці да сямейна-індывідуальнай сялянскай працоўнай дзейнасці. Як і кааперацыя, яна павінна быць аднолена ў сваіх правах. Размова ідзе аб сялянскіх гаспадарках, якія даюць тавар і базіруюцца на ўласнай працы. І, вядома, мы павінны аднавіць у поўных правах асабістыя падсобныя гаспадаркі працоўных.

Усе гаспадарчыя формы могуць цесна ўзаемадзейнічаць у сацыяльна-эканамічнай структуры нашага грамадства, спаборнічаць паміж сабой, дапаўняць адна адну, на справе даказваць сваю эфектыўнасць і перспектыўнасць.

З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ

## ВЫСТУПЛЕННЕ ПРАДСТАЎНІКА БССР

На сесіі Камісіі сацыяльнага развіцця ААН, якая праходзіць у Вене, працягваецца дыскусія аб сусветным сацыяльным становішчы.

Назіральнік ад Беларускай ССР В. Анішчук, які выступіў у спрэчках, расказаў аб вопыце сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у рэспубліцы.

Прадстаўнік БССР падтрымаў пункт погляду шэрагу дэлегацый, якія выказаліся за далейшае ўмацаванне ролі Камісіі сацыяльнага развіцця, а таксама за канцэнтрацыю дзейнасці ААН у сацыяльнай сферы на базе Венскага цэнтра ААН па сацыяльнаму развіццю і гуманітарных пытаннях.

КЛОПАТ АБ ПРАЦОЎНЫХ



На многіх прамысловых прадпрыемствах Мінска хутка развіваецца сацыяльна-бытавая сфера. Вось толькі апошнія навіны.

Уступіў у строй медыцынскі комплекс завода С. Вавілава, які ўключае паліклініку на 600 наведванняў у дзень і стацыянар на 240 пацыентаў. У ім чатыры аддзяленні — кардыялогіі, неўралогіі, тэрапіі, гастраэнтэралогіі, ёсць водалячэбніца, аднаўленчы і дыягнастычны цэнтры. Светлыя, прасторныя палаты абсталяваны аператыўнай сувяззю з дзяжурнай медсястрой, па спецыяльнаму заказу выкананы лёгкія зручныя ложкі.

На аўтамабільным заводзе адкрылася новая сталовая. У ёй няма чэргаў, не відаць прывычных ліній раздач, касавых апаратаў. У праразь турнікета ў любым наборы апускаецца 60, 70 ці 80 капеек у залежнасці ад выбранага комплексу, і праз лічаныя секунды стужка транспарцёра выносіць паднос з абедам. З меню, якое ўключае тры комплексы з указаннем іх каларыйнасці, можна азнаёміцца на экранах каляровых манітораў ля ўваходу ў сталовую ці каля саміх турнікетаў. Можна зрабіць і заказ на заўтра.

Зала сталовай разлічана на 345 месцаў. За гадзіну ў ёй могуць паабедаць 1 000 чалавек.

НА ЗДЫМКАХ: у абедзеннай зале новай сталовай аўтазавода; сеанс падводнага душа-масажу ў водалячэбніцы праводзіць медсястра Святлана ЗЫКАВА.



ЧЫГУНАЧНЫ ТРАНСПАРТ

## ПАЯЗДЫ З ПОЛЬШЧЫ

Кожны дзень па Польшчы курсіруюць 7 250 паяздоў. У ноч з 27 на 28 мая колькасць іх павялічыцца, у тым ліку на Беларусь і Украіну.

Уводзяцца, у прыватнасці, новыя паязды: Лодзь —Брэст праз Варшаву, Вроцлаў—Гродна—Вроцлаў праз Варшаву, Гдыня—Гродна—Гдыня праз Эльблонг, Ольштын, Астралэнку і Беласток, Кіеў —Хелм—Кіеў праз Познань, Лодзь, Люблін, Хелм і іншыя.

Павелічэнне колькасці паяздоў на лініі Польшча—Савецкі Саюз звязана з расшырэннем прыгранічнага турыстычнага руху, а таксама з узрастаючым супрацоўніцтвам паміж прадпрыемствамі польскіх ваяводстваў і аднатыпнымі прадпрыемствамі Беларусі і Украіны.

ЛЯКАРСТВА З ВОЗЕРА

## ХОПІЦЬ НА ДЗВЕСЦЕ ГАДОЎ

Любімым месцам адпачынку многіх мінчан з'яўляецца вядомае ў Пухавіцкім раёне возера Сяргееўскае. Пошукі навукова-даследчай экспедыцыі маскоўскага ўпраўлення «Геамінвод» Міністэрства аховы здароўя СССР, якія нядаўна завяршыліся тут, пацвердзілі: пад вадой знаходзіцца сапраўдны клад—незвычайныя адклады сапрапелю. Хімічны аналіз узятай з дна масы пацвердзіў, што ў ёй утрымліваецца патрэбная норма гумінавых кіслот і мікраэлементаў. Гэтыя каштоўныя злучэнні ўтвараюць незаменны біястымулятар, які дае высокі эфект у гразелячэнні.

Шырокае прымяненне гэты сродак можа атрымаць пры лячэнні захворванняў апорна-рухальнага апарату, радыкуліту, дапаможа аднавіць здароўе людзей, якія пацярпелі ад няшчасных выпадкаў.

Па прагнозах, запасаў азёрнага сапрапелю хопіць амаль на 200 гадоў.

СЕРЫЙНЫ ВЫПУСК

## «АПЕТЫТ», ЯК У ЛЯМПАЧКІ

У мінскім вытворчым аб'яднанні «Гарызонт» пачаты серыйны выпуск тэлевізараў чацвёртага пакалення з вялікім экранам «Гарызонт-61ТЦ411». Яны прынцыпова адрозніваюцца ад сваіх папярэднікаў трэцяга пакалення.

Напрыклад, новая касета апрацоўкі сігналу дае павышаную дакладнасць адлюстравання, а таксама магчымасць у далейшым выпускаць тэлевізар з так званым ПАЛ-дэкадэрам. Гэта дазволіць глядзець па тэлевізару ў каляровым адлюстраванні і відэазапісы.

Новы тэлевізар значна знізіў у параўнанні з папярэднімі мадэлямі спажыванне энергіі. Увогуле «апетыт» у яго не большы, чым у звычайнай 80-ватнай электралямпачкі.

Новы «Гарызонт» мае і больш высокую надзейнасць. На выпрабаваннях на працягу 7 500 гадзін бесперабойнай работы тэлевізары працавалі безадмоўна. Да канца ж пяцігодкі надзейнасць апаратаў гэтага класа намечана павялічыць не менш чым да 10 000 гадзін.

ФОТАВЫСТАЎКА

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ АДКРЫВАЕ ЧАЛАВЕКА

М. Напельбаум класікам быў прызнаны яшчэ пры жыцці. У яго вучыліся, яго капіравалі, у той час як сам ён, валодаючы стылем непаўторнай арыгінальнасці, настаўнікамі сваімі лічыў Рубенса і Ван Дэйка, Рафаэля і Рэмбранта. Шэдэўры вялікіх жывапісцаў дапамагалі яму авалодваць сакрэтамі кампазіцыі, ігры святла і ценю. Але заслужаны артыст РСФСР Майсей Напельбаум ніколі не пісаў алеем, не маляваў вугалем і пастэллю. Свае творы, вядомыя сёння ўсяму свету, ён ствараў на фотапаперы і да гэтага часу па праву лічыцца неперасўзыдзеным фотамастакомпартрэтыстам.

І вось упершыню, дзякуючы намаганням Беларускага фонду культуры, магчымасць пазнаёміцца з творчасцю гэтага выдатнага майстра, які нарадзіўся, дарэчы, у Мінску, атрымалі і мінчане. Выстаўка яго работ, прымеркаваная да 150-годдзя фатаграфіі, была адкрыта ў сталічным Палацы мастацтва.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

**ГОМЕЛЬ.** Першыя серыйныя пыласосы-малюткі выпусціла Гомельскае аб'яднанне пластмасавых вырабаў. На канвеер пастаўлены арыгінальны бытавы прыбор размерам 1 вагой з электрапрас. Асабліва зручная навінка для чысткі мяккай мэблі, дываноў, штор, з поспехам замяняе яна адзежную шчотку. У гэтым годзе работнікі вытворчасці адправяць у гандлёвую сетку каля ста тысяч кампактных і недарагіх прыбораў.

**ПУХАВІЧЫ.** Развіваюцца дзелавыя сувязі дзяржгаса «Саннікі» (Плоцкае ваяводства) і дзяржплемзавода «Індустрыя» Пухавіцкага раёна. Племзавод купіў у дзяржгасе спецыяльную пункціруючую сеялку для кукурузы. Палякі таксама паставяць насенне кукурузы перспектыўнага сорту «скандрыя».

Узамен беларусы паставяць сваім партнёрам прыгодныя ў польскіх умовах машыны для ферм. Вельмі карысным для санніцкіх жывёлаводаў аказаўся і наш вопыт ва ўзвядзенні розных гаспадарчых пабудоў.

 № 12 (2102), 23 сакавіка 1989 г.

## У БЕЛАРУСКІХ ШКОЛЬНІКАЎ—ГОСЦІ З ЗША

**Укладам ва ўмацаванне дружбы і ўзаемаразумення паміж Савецкім Саюзам і ЗША стала сустрэча амерыканскіх і савецкіх школьнікаў, якая адбылася ў Мінску. Сабраліся юнакі і дзяўчаты на сумесную канферэнцыю, каб абмеркаваць вельмі сур'ёзныя пытанні палітычнага і грамадзянскага лідэрства ў сучасным жыцці, найважнейшыя, з іх пункту гледжання, задачы, якія павінны вырашаць у духу новага мыслення кіраўнікі дзвюх краін.**

**Пабывалі госці з Амерыкі і ў 103-й мінскай школе. Тут была прадоўжана дыскусія, паказаны вялікі сумесны канцэрт. Госці прынялі ўдзел у спартыўных гульнях, пазнаёміліся з жыццём беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак, пабывалі ў іх у гасцях. І, вядома ж, абмяняліся адрасамі, каб працягваць дружбу. Дыскутавалі і размаўлялі школьнікі без дапамогі перакладчыкаў — на англійскай мове.**

**НА ЗДЫМКАХ: амерыканская настаўніка Колен КУРЦІС на ўроку англійскай мовы ў 2-м класе 103-й школы; амерыканскі школьнік Эрык АНДЭРСАН (справа) захацеў пабываць на ўроку беларускай мовы. Тлумачэнні яму дае вучань 9-га класа Юра МІНІН; гульня спартландыя захапіла ўсіх.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**







*СТАРОННІМ ВОКАМ*

# ПЕРАМЕНЫ ГЛЫБОКІЯ І СУР'ЁЗНЫЯ

Мінчане даўно прывыклі чуць на вуліцах роднага горада чужую мову. Тысячы замежных гасцей штогод наведваюць сталіцу Беларусі. Гэта турысты і бізнесмены, студэнты і журналісты, людзі, якія прыязджаюць па справах ці проста паглядзець на іншую краіну, на жыццё людзей незнаёмага ім грамадства. Што ж яны бачаць тут? Якія ўражанні аб нас вязуць з сабой? Вядома, самыя розныя, паколькі кожны чалавек успрымае ўсё па-свойму. Але абсалютная большасць гасцей не раскайваюцца ў тым, што патрацілі час і сродкі на наведанне Беларусі. Каб не быць галаслоўнымі, дадзім слова ім самім. Вось некаторыя выказванні замежных гасцей з кнігі водгукаў Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі:

«На прыкладзе Беларусі мы ўбачылі, што Савецкі Саюз — краіна працоўных і ўяўляе рэальную альтэрнатыву капіталізму, — напісаў памочнік генеральнага сакратара Нігерыйскага кангрэса працы Якая Хашыма. — Відавочным з'яўляецца імкненне ўсіх людзей забяспечыць мір. Мы адчулі ўпэўненасць савецкага народа ў будучыні і яго клопат пра будучыню. Гэта ў той час, калі ў капіталістычных краінах ніхто з рабочых не можа сказаць, што будзе заўтра. У вашых людзей ёсць што абараняць і ёсць за што змагацца. Мы будзем рабіць усё магчымае для падтрымання праграмы разбраення, прапанаванай СССР».

«Тут мы ясна ўбачылі імкненне савецкіх людзей да міру, — канстатаваў доктар Хойдынгер, які наведаў нашу рэспубліку ў складзе дэлегацыі ФРГ. — Дзве рэчы, мне здаецца, маюць рашаючае значэнне: па-першае, выдатная будучыня, якую тут будуюць працоўныя і якая магчыма толькі ва ўмовах міру, і, па-другое, тая акалічнасць, што людзі перажылі тут жахі вайны і таму асабліва ўмеюць цаніць мір».

Усебаковым было знаёмства з Беларуссю Віліса Хармана, які ўзначальвае ў ЗША Інстытут даследавання чалавечага розуму. Ён, на жаль, адзначыў няўвязкі ў бытавым абслугоўванні, недастатковую пунктуальнасць людзей, якія забяспечвалі маршрут. Выказваўся ён і аб бюракратызме, больш «значным, чым амерыканскі». Тым не менш, галоўны вывад прафесара аб выніках паездкі такі: «Многага мы не ведалі аб савецкіх людзях, — піша ён, — аб іх дасягненнях, аб тым, як многа станоўчага ёсць у Савецкім Саюзе. Мы саманадзейна думалі, што савецкія грамадзяне параноікі, аказалася, што гэта мы такія. Пасля нашых сустрэч з савецкімі людзьмі мы яшчэ раз пераканаліся ў тым, што гонка ядзерных узбраенняў — сапраўднае вар'яцтва. Мы зразумелі, што людзі ў гэтай краіне імкнуцца да ўзаемаразумення і што разам мы можам выйсці з тупіка, створанага ядзерным вар'яцтвам».

А вось уражанні аб нашай рэспубліцы непальскага журналіста — галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Тэлеграф» Нарэндра Упадхая, апублікаваныя пасля паездкі ў яго газеце:

«Перабудова і публічнасць былі асноўнай тэмай гутарак, якія мы мелі ў Мінску, паўтарамільённай сталіцы Беларусі. Раскажу аб адной, што асабліва запомнілася. Гэта быў вечар, праведзены за шклянкай чаю ў сям'і Уладзіміра і Валянціны Кірылавых. Запрашэнне на яго мы атрымалі ў час наведання Мінскага тонкасуконнага аб'яднання, дзе Уладзімір працуе слесарам па рамонту абсталявання, а Валянціна — ткачыхай. У іх двое дзяцей — дачка і сын дзевяці і шасці гадоў, жывуць у трохпакаёвай кватэры з кухняй. Мы былі першымі іншаземцамі, якія пераступілі парог іх дома.

Тонкасуконнае аб'яднанне, дзе працуюць Кірылавы, знаходзіцца недалёка ад іх дома. Гэта буйное прадпрыемства тэкстыльнай прамысловасці, на якім занята тры з лішнім тысячы чалавек, 70 працэнтаў з іх — жанчыны. Яно пабудавана 42 гады назад, адразу пасля другой сусветнай вайны, і цяпер штогод выпускае больш 5 мільёнаў пагонных метраў шарсцяных і паўшарсцяных тканін 240 розных тыпаў і малюнкаў».

Адказваючы на пытанні замежнага журналіста, генеральны дырэктар аб'яднання Віктар Арбузаў расказаў, што іх калектыў ужо другі год працуе па новай сістэме — на прынцыпах поўнага гасразліку і самафінансавання. Гэта дало прадпрыемству права самастойна фарміраваць гаспадарчую палітыку і распараджацца заробленымі сродкамі. Пасля разлікаў з дзяржавай у аб'яднання застаецца каля 46 працэнтаў прыбытку. Савет працоўнага калектыву, які выбіраюць рабочыя, размяркоўвае гэтыя грошы па трох напрамках: у фонд развіцця вытворчасці, на сацыяльныя патрэбы і аплату працы.

«Арбузаў гаворыць, што ў новых умовах, яму як менеджэру, стала працаваць значна цікавей. Але поўнай прасторы для дзелавой ініцыятывы ён пакуль не атрымаў, піша Нарэндра Упад[illegible] Не можа, напрыклад, сва[illegible] а набыць патрэбнае абсталяванне, таму што ўсё яшчэ дзейнічае ранейшая сістэма цэнтралізаванага забеспячэння. Такая ж сітуацыя з пастаўшчыкамі сыравіны: хто, каму і што будзе пастаўляць — па-ранейшаму вырашае міністэрства. Аднак Арбузаў чакае, што гады праз два-тры і тут адбудуцца перамены. У такой вялікай машыне, як савецкая эканоміка, змяніць адразу ўсе вузлы немагчыма, гаворыць ён.

Але, думаецца, справа не толькі ў цяжкасцях аб'ектыўнага характару. Бо калі некаму даюць правы, значыць у некага іх забіраюць. І бюракратыя ў меру сваіх магчымасцей будзе тармазіць ход перабудовы, што, уласна, і спрабуе рабіць».

Пабываў Нарэндра Упадхая і ў сваіх калег у рэдакцыі адной з буйнейшых рэспубліканскіх газет «Советская Белоруссия», пагутарыў з яе галоўным рэдактарам Аляксандрам Зініным.

«У гэтым годзе ў «Советской Белоруссии» з'явілася 40 тысяч новых падпісчыкаў, — расказвае журналіст. — На думку галоўнага рэдактара, газета прыцягнула ўвагу чытачоў тым, што стала абмяркоўваць тэмы, якія раней прэсай не закраналіся. Напрыклад, аб дзейнасці міліцыі, суда, пракуратуры пісалася толькі станоўчае, хаця, як высветлілася, былі і злоўжыванні, і грубыя памылкі. Газета пачала запаўняць і так званыя «белыя плямы» гісторыі. Закрытых тэм цяпер не існуе. Журналісты могуць атрымаць любую інфармацыю, якая цікавіць іх. Партыйныя і ўрадавыя органы аказваюць газеце ў гэтым усялякае садзейнічанне».

Такія і іншыя сустрэчы, паводле слоў галоўнага рэдактара «Тэлеграфа», дапамаглі яму зразумець, наколькі глыбокія і сур'ёзныя перамены адбываюцца сёння ў Савецкім Саюзе. Не дарэмна ж гавораць: лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

## ЗВЕРХУ БАЧНА ЛЕПШ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

вучонымі прыборы дазволілі прыкладна на парадак знізіць гэты парог. Аналагічным чынам можна своечасова выяўляць захворванні азімых збожжавых культур.

— Нядаўна распрацаваная рэспубліканская навукова-тэхнічная праграма спектральных назіранняў за навакольным асяроддзем будзе арыентавана на задавальненне запатрабаванняў канкрэтных галін народнай гаспадаркі, — гаворыць Леанід Кісялеўскі. — Чакаецца, што эканамічны эфект ад гэтага складзе некалькі мільёнаў рублёў у год. Але справа не толькі ў грошах. Новыя метады назірання за прыродай дазволяць выяўляць згубнае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе з боку тых ці іншых прамысловых прадпрыемстваў, аргументавана патрабаваць іх закрыцця ці рэканструкцыі, без чаго далейшае гаспадаранне проста немагчыма.

У новы цэнтр увойдуць некалькі навукова-даследчых лабараторый, дзве кафедры, канструктарскі аддзел. Для іх універсітэт пачне падрыхтоўку адпаведных кадраў. У недалёкай перспектыве будзе ўзведзены будынак для магутнага вылічальнага цэнтра, з'явіцца станцыя сувязі з касмічнымі спадарожнікамі. Аднак назіранні маркуецца весці і з больш нізкіх «паверхаў» — з самалётаў, верталётаў, спецыяльных вышак. Аб жаданні супрацоўнічаць з цэнтрам заявілі ўжо многія, у тым ліку аналагічныя арганізацыі ГДР, ФРГ, Польшчы.

*ПРОБЛЕМЫ СОВЕТСКОЙ ЭКОНОМИКИ*

# ФИНАНСОВАЯ СИТУАЦИЯ

## (ЧТО О НЕЙ ДУМАЮТ В МИНИСТЕРСТВЕ ФИНАНСОВ СССР?)

«Финансовая ситуация в советской экономике неоднозначна и противоречива, — считает заместитель министра финансов СССР, доктор экономических наук Вячеслав Сенчагов. Произошли ощутимые положительные сдвиги, но в то же время сохраняются крупные нерешенные проблемы. В целом финансовая ситуация стала, пожалуй, сложнее».

Какие же проблемы отражаются сегодня в зеркале финансов? Что обнадеживает и что вызывает обеспокоенность?

### ПРЕОДОЛЕНИЕ ТЕНДЕНЦИЙ К СПАДУ

По мнению Вячеслава Сенчагова, одна из важнейших характеристик сегодняшней ситуации — оживление во всех сферах экономической деятельности. «Финансовые показатели, — говорит заместитель министра,—хорошо это отражают. Возьмем, например, прибыль. Среднегодовые темпы ее прироста в 1986-1988 годах (8,4 процента) существенно выше прироста за год в предыдущей пятилетке (6,1 процента). Анализ показывает, что лучше стала и динамика рентабельности».

Однако за улучшением финансовых показателей кроется немало негативных моментов. Стремление к росту прибыли нередко оборачивается необоснованным вздуванием цен, а повышение рентабельности идет за счет вымывания из оборота дешевых товаров. «Да, такие тенденции есть, — признает Вячеслав Сенчагов, — но развитие реформы невозможно без оживления цен. Ведь за высокое качество и технический уровень продукции надо платить. Другое дело, что на процесс ценообразования можно и нужно воздействовать. Как? В 1989 году, например, на товары детского ассортимента и для пожилых людей будут выделены дотации почти в 4 миллиарда рублей. Благодаря им рентабельность продукции, предназначенной для детей и пенсионеров, может достигать 20-25 процентов, тогда как в среднем в легкой промышленности она составляет немногим более 14 процентов».

Заместитель министра отметил, что в ходе реформы выявились новые проблемы. Например, рост заработной платы идет почти вдвое быстрее, чем рассчитывали. Среднегодовые темпы прироста денежных доходов, включая выплаты из общественных фондов, в 1986-1988 годах составили 6 процентов, а национального дохода — только 3,6 процента. Это, естественно, усложнило ситуацию на потребительском рынке.

### СПРОС ОПЕРЕЖАЕТ ПРЕДЛОЖЕНИЕ

«Рынок сигнализирует нам о неблагополучии, — отмечает Сенчагов. — Превышение спроса над предложением говорит о нарушении других пропорций. И прежде всего — о несбалансированности доходов и расходов государства. Здесь корень проблемы финансового оздоровления экономики».

Государственный бюджет на 1989 год утвержден с 35-миллиардным дефицитом. Еще 63,4 миллиарда рублей заимствовано бюджетом из средств Госбанка. Этот дисбаланс, составляющий почти 100 миллиардов рублей, вызывает [illegible]олну дефицитов на потреб[illegible]ьском рынке, усиливает [illegible]фляционные процессы.

Как намерены в СССР решать эти проблемы? «Первое, что надо сделать дл[illegible] укрепления рыночного равн[illegible]ия,— резко увеличить производство товаров и услуг», — считает Вячеслав Сенчагов. Предпринимаются меры для того, чтобы выпуск потребительских товаров в 1989 году увеличился на 18-20 миллиардов рублей, а в 1990 году — на 45 миллиардов рублей по сравнению с 1988 годом.

### ПЕРЕСМОТР ИНВЕСТИЦИОННЫХ ПРОГРАММ

По словам Сенчагова, сейчас речь идет о серьезных переменах в системе финансирования капиталовложений, о пересмотре государственной инвестиционной программы.

«Бюджет перегружен инвестициями в производство, — подчеркивает он.—Пора прекратить строительный бум за государственный счет. Достаточно сказать, что сейчас в стране одновременно сооружается свыше 300 тысяч включенных в план производственных объектов. Капиталовложения распыляются, деньги в буквальном смысле слова зарываются в землю — в фундаменты».

Сенчагов приводит впечатляющие цифры роста объемов незавершенного строительства. В 1986 году они составляли 132,5 миллиарда рублей, в 1987 — 138,5 миллиарда, а в 1988 году — уже около 150,5 миллиарда рублей.

### БРЕМЯ УБЫТОЧНЫХ ПРЕДПРИЯТИЙ

До недавнего времени о банкротстве в СССР мало кто говорил всерьез. И в промышленности, и в сельском хозяйстве есть много предприятий, которые десятилетиями безбедно живут за счет бюджетных дотаций и постоянно продлеваемых кредитов. Чтобы поддерживать их «на плаву», государство ежегодно тратит свыше 11 миллиардов рублей. «Сейчас мы установили убыточным предприятиям лимиты дотаций, снижающиеся по годам, — отмечает Вячеслав Сенчагов. — Однако нужны, видимо, и более жесткие, более решительные меры».

Что ждет предприятия-банкроты? Одни меняют профиль деятельности, другие войдут в состав экономически сильных объединений. Есть и нетрадиционные варианты решения проблемы. Так, ряд государственных промышленных предприятий передан в аренду их коллективам, некоторые преобразованы в кооперативы.

### БУДЕТ ЛИ В СССР РЫНОК ЦЕННЫХ БУМАГ!

Вячеслав Сенчагов считает, что акционерные формы могут сыграть важную роль в процессе финансового оздоровления экономики. «Акции открывают возможности для перегруппировки финансовых ресурсов, перемещения их из тяжелой промышленности в легкую»,— говорит он.

Сегодня действуют два вида акций. Первый — «акции трудового коллектива». Они похожи на хорошо известные на Западе «рабочие акции». Однако в СССР их могут приобретать только работники предприятия, которое выпускает акции. Другой вид — «акции предприятия». Они продаются не частным лицам, а другим организациям. При этом они не дают права контроля над деятельностью эмитента. Таким образом, «акции предприятия» пока больше напоминают сберегательный депозит или же разновидность торгово-коммерческого кредита между предприятиями, чем настоящие акции.

Вячеслав Сенчагов признает, чт[illegible] [illegible]нешний механизм функци[illegible]рования акций в СССР имеет немало слабостей. «Но это не половинчатость — это постепенность,—утверждает он. — Акционерное движение сейчас [illegible]ереживает промежуточны[illegible] [illegible]п, период становления».

### [illegible]ВЫЕ ВОЗМОЖНОСТИ ФИНАНСОВОГО ОЗДОРОВЛЕНИЯ

Как уже сообщалось в печати, Советский Союз намерен уменьшить военный бюджет на 14,2 процента, а производство вооружения и военной техники — на 19,5 процента. «По существующей классификации, — отмечает Сенчагов, — оборонные расходы в бюджете составляют 20,2 миллиарда рублей. Однако эта сумма учитывает только содержание личного состава вооруженных сил и не содержит затрат на покупку техники, на научные и проектно-конструкторские разработки. Естественно, сокращение в этой сфере даст немалую сумму. Впрочем, не стоит забывать, что конверсия, то есть переход предприятий военной промышленности на выпуск гражданской продукции, на первых порах требует немалых затрат».

Говоря о других возможностях финансового оздоровления, Вячеслав Сенчагов выделил такие эффективные, по его мнению, меры, как введение обязательного страхования имущества государственных предприятий и активизацию процентной политики банков. Немалую экономию может принести сокращение расходов на содержание аппарата управления.

Весьма сдержанно заместитель министра прокомментировал предложение о резком расширении импорта потребительских товаров, которое выдвинули известные экономисты Николай Шмелев и Абел Аганбегян. «Для крупных закупок товаров на год-два деньги найти можно. Например, за счет сокращения импорта металла, некоторых видов оборудования, а также зерна, — говорит Сенчагов.—Но ведь это не решает проблему радикально, а отодвигает решение. Что же касается зарубежных кредитов под закупку товаров, то здесь есть строгие границы. Мы должны быть научены опытом стран, которые таким образом попали в долговую ловушку». По мнению Сенчагова, кредиты предпочтительнее использовать по-иному — для закупки современного оборудования по выпуску потребительских товаров, а также для реконструкции предприятий легкой промышленности. Эффективны и другие формы привлечения иностранного капитала — создание совместных предприятий, «зон предпринимательства».

**Алексей ПУТИНЦЕВ.**

ОТНОШЕНИЕ К «ОТЦУ НАРОДОВ»

# «ПРИЕМ ПОСЕТИТЕЛЕЙ ВРЕМЕННО ПРИОСТАНОВЛЕН»

Официально этот музей в небольшом грузинском городке километрах в восьмидесяти от столицы, Тбилиси, закрыт. Как сказано в составленном от руки объявлении, вывешенном в окне вестибюля, «в связи с ведением реэкспозиционных работ» (а ведутся они с начала нынешнего сентября). Неофициально же вокруг этого обстоятельства, естественно, ходят разного рода слухи, которые мне захотелось проверить. Так состоялась моя встреча с Ниной Амиреджиби, директором горийского «комплекса» (помимо внушительного здания музея с пятью просторными залами тут есть еще сам домик, где в 1879 году родился и до 1883 года проживал человек, который тогда был известен односельчанам еще не под псевдонимом И. В. Сталин, как значится ныне на мемориальной доске, а под именем Иосифа Джугашвили).

Нина Амиреджиби приняла моего грузинского коллегу по АПН и меня в своем кабинете. Первое, что бросилось в глаза, — большая фотография И. В. Сталина в мундире. Когда-то подобные фотопортреты украшали стены всех без исключения присутственных мест страны.

— Скажите, а что означает «реэкспозиция»? И не скрываются ли за ней планы закрытия музея? — был мой первый вопрос. Нет, о таких планах ей ничего не известно, энергично уверяла Нина Амиреджиби. Смысл же новой экспозиции, проект которой ждет утверждения, в том, чтобы как можно полнее, «в духе гласности», отразить ставшие известными по публикациям в советской прессе факты о деятельности И. В. Сталина и т. д. Впрочем, по словам нашей собеседницы, и в старую экспозицию (она действовала последние четыре года) были включены критические оценки культа личности, данные XX съездом КПСС.

Не имея возможности пройтись по залам закрытого ныне музея, чтобы на месте удостовериться, как именно экспонированы в них «критические оценки культа личности», я довольствовался книгой отзывов, лежавшей на журнальном столике в кабинете директора. В ней собраны высказывания за два года директорства Нины Амиреджиби. До этого она была ученым секретарем дома-музея.

Так вот — и об этом обстоятельстве она говорит с нескрываемым удовлетворением — среди множества записей есть всего одна (!), где экспозиция критикуется за то, что, по мнению посетителя (в Гори этот человек, чью подпись я так и не смог разобрать, приехал с другого конца страны — из Южно-Сахалинска), она не содержит сколько-нибудь серьезной критики самого Сталина и того, что сейчас все чаще определяется термином «сталинщина».

«Посетили музей, — говорится в отзыве, — и не увидели ничего, кроме отрывков из биографии «отца народов». А где сведения о миллионах советских людей, замученных в лагерях с его ведома и одобрения? Период был безусловно сложным, и рассматривать его надо во всех сложных противоречиях, а не вставлять в незамаранную биографию наспех вклеенные кусочки из речи Горбачева. Безусловно, нельзя делить мир на сталинистов и антисталинистов, но нельзя делать вид, что ничего не произошло».

Такая вот запись, сделанная явно неравнодушной рукой 30 августа нынешнего года. Зато рядом другие отклики, читая которые, не можешь отрешиться от впечатления, что они сделаны не в нынешнем, а в далекие от нас годы.

«Считаем, что музей должен существовать, чтобы наши потомки знали имя товарища Сталина», — утверждает посетитель из Владимира, полагая, очевидно, что без музея они его забудут.

«Великий Сталин! Любимый вождь! Да святится имя твое!» — записывает прямо-таки в молитвенном экстазе хирург из Ленинграда Н. Лесная.

Но, пожалуй, наиболее вдохновенную «оду» сложила другая ленинградка, посетившая Гори 14 августа сего года, — Нина Андреева, чье письмо-статья в «Советской России» наделала столько шума. На сей раз она выступает в творческом тандеме со своим мужем — профессором философии В. Клушиным. Вот что, в частности, их особенно волнует: «Вечная память и слава Верховному Главнокомандующему великой армии труда! Простите, товарищ Сталин, что допустили сегодняшнее. Уверены, что правда истории восторжествует...».

Что ж, в том же самом уверены и миллионы советских людей. Только вот — и я не мог не подумать об этом, листая страницы книги, — вкладывают они в эти слова совсем другой смысл. Поэтому-то столь неловко и даже стыдно читать и поистине кощунственные откровения Нины Андреевой и ее мужа; и наивные сетования группы работников вольфрамово-молибденового комбината из города Тырныауз насчет отсутствия в доме-музее соответствующих буклетов, дабы, вернувшись домой, показывать родным и близким; и рассуждения администратора центра досуга московской гостиницы «Салют» Олега Артыхова по поводу того, что «со времени его (т. е. Сталина) ухода еще не сделано то, что сделал он»; и многое-многое другое из книги отзывов.

...Выйдя из помпезного здания музея, мы подошли к стоящему поблизости небольшому домику, накрытому защитным «колпаком», — тому самому, где родился и провел детские годы И. В. Сталин. Посетителей и тут, хотя в домике никакие «реэкспозиционные работы» не ведутся, не было видно. Только однажды мимо пропорхнула веселая стайка школьников.

Не знаю, кому как, а мне такая «концовка» пришлась по душе. Хочется быть уверенным, что молодое поколение горийцев, о которых мне приходилось от разных людей слышать, что они, дескать, горой стоят за своего земляка, относится к Сталину так же, как миллионы советских людей, для которых это имя стало — или с каждым днем все больше становится — символом тирании, попрания не только социалистических, но и вообще общечеловеческих норм нравственности. А записи в книге посетителей — горийцев и негорийцев? Что ж, каждый волен оставаться при своем мнении. К нашей общей радости, таких людей в стране меньшинство.

**Юрий КАЦНЕЛЬСОН.**

Полоса подготовлена по материалам АПН.

## АРМЯНСКІ КРЫТЫК ДАСЛЕДУЕ ТВОРЧАСЦЬ МАКСІМА ТАНКА

# СПОВЕДЗЬ ПАЭТА

**Беларуская літаратура ўжо даўно набыла шырокую вядомасць. Лепшымі сваімі здабыткамі яна ўвайшла ў сусветную скарбніцу духоўнага багацця чалавецтва. Пра тое, якія кнігі беларускіх аўтараў перакладаюцца за межамі краіны, мы пастаянна паведамляем у матэрыялах рубрыкі «На мовах свету». Нам цікава і карысна ведаць, што думаюць пра той ці іншы твор самыя розныя чытачы.**

**Фелікс БАХЧЫНЯН — прафесійны літаратуразнавец, даўні сябар беларускай літаратуры. Ён жыве і працуе ў сталіцы Арменіі — Ерэване. Летась Ф. Бахчынян прыязджаў у Мінск, сустракаўся з маладымі і сталымі паэтамі, меў з імі гутаркі. Пасля гэтай паездкі Ф. Бахчынян мяркуе выдаць кнігу, прысвечаную творчасці беларускіх паэтаў. Армянскі літаратуразнавец прапанаваў рэдакцыі «Голасу Радзімы» артыкул з будучага зборніка, у якім ён даследуе шматгранную творчасць карыфея беларускай савецкай літаратуры Максіма Танка.**

**Я люблю людзей, якія вераць**
**У буслоў, што нам вясну прыносяць,**
**У ваду, што наталяе смагу,**
**У зярно, што каласіцца ў полі,**
**У любоў, што зоры запаляе,**
**У агонь, што грэе нашы сэрцы,**
**У дарогу, што вядзе да сонца,**
**У бяссмерце сваёй роднай мовы,**
**У легенды ўсіх народаў свету,**
**У сяброўства, што злучае рукі...**

**І асцерагаюся заўсёды**
**Тых людзей, што ні ва што не**
**вераць.**
**Максім ТАНК.**

ГАЛОЎНЫМ фактарам развіцця літаратуры з'яўляюцца грамадскія ўмовы. Аднак вельмі многае залежыць і ад самой творчай асобы. Углядаючыся ў мінулае, мы заўсёды вылучаем мастакоў, дзейнасць якіх мела асаблівае значэнне для якога-небудзь этапу літаратуры, для з'яўлення тых ці іншых тэндэнцый, іх сцвярджэння. Амаль заўсёды бывае авангардная фігура, якой наканавана стаць кіраўніком літаратурнага руху, што нараджаецца, роданачальнікам новага накірунку ці нават вяшчальнікам духоўнага абнаўлення грамадства. Гэта мастакі, чые валявыя намаганні, гераізм барацьбы, а часам і драматычныя перажыванні звязаны не толькі з іх індывідуальнай творчасцю, але і з больш шырокімі з'явамі ў развіцці нацыянальнай культуры.

Думаецца, што такой фігурай беларускай савецкай літаратуры з'яўляецца Максім Танк. З яго імем звязаны жыватворны працэс абнаўлення беларускай паэзіі. Без яго немагчыма ўявіць адраджэнне і развіццё лірычных традыцый, смелых наватарскіх пошукаў. Ён высока ўзняў сцяг сацыялістычнага гуманізму. Сфарміраваны і сагрэты яго паэтычным уяўленнем, прыйшоў у беларускую літаратуру новы вобраз сучаснага чалавека. І хаця Максім Танк быў і застаўся лірыкам, яго мастацкія пошукі ўплывалі як на паэзію, так і на эпічную творчасць.

У гісторыі беларускай савецкай літаратуры Максіму Танку належыць такая ж значная роля ў паэзіі, як Васілю Быкаву ў прозе. Калі для новага пакалення беларускіх празаікаў эталонам стала прыгожая і разам з тым трывала пабудаваная творчасць Васіля Быкава, якая ўражвае сваім сюжэтна-кампазіцыйным дынамізмам, ёмістасцю стылю, вобразнымі параўнаннямі і метафарамі, то для маладых паэтаў ім стала паэзія Максіма Танка — глыбока эмацыянальныя, музыкальна-жывапісныя вершы. Творчасць Максіма Танка — надзвычайная літаратурная з'ява. З ёю самым цесным чынам звязаны асноўныя рубяжы найноўшай беларускай паэзіі. Акрамя ўсяго іншага, Максім Танк— паэт агульнасаюзнага маштабу, які шырока пераступіў нацыянальныя межы літаратурнай вядомасці. Ужо не першае пакаленне беларускіх паэтаў увайшло ў літаратуру, вывучаючы «ўрокі» Танка.

Для творчасці Максіма Танка, якая ўяўляе сабой феномен, характэрна арганічнае злучэнне лірычнага, глыбока суб'ектыўнага пачатку, што бярэ вытокі ў беларускім фальклоры, і максімальна шырокага ахопу сусветнай гісторыі і сусветнай культуры з пазіцый сапраўднага гуманізму і сапраўднага інтэрнацыяналізму. Яго паэзія напружана інтэлектуальная, па самой сваёй прыродзе канцэптуальная і адначасова спавядальная, прасякнута адчуваннем датычнасці паэта да ўсяго, чым жыве сёння планета, усведамленнем няс[illegible]асці і ўзаемазвязанасці ўсёй чала[illegible]ай гісторыі.

ЯШЧЭ ў школьныя гады мне давялося пазнаёміцца з творчасцю Максіма Танка. Потым многа расказваў пра выдатнага беларускага паэта яго армянскі бр[illegible] па пяру Геворг Эмін. Ён гаварыў пр[illegible]эксіма Танка як пра аднаго з самых [illegible]нтэлігентных, душэўна тонкіх і разумных людзей, якіх сустракаў у сваім жыцці.

Ішоў час. Вядома, заўсёды я клапаціўся пра тое, каб раздабыць новыя пераклады вершаў Максіма Танка. І ў мяне дома, на паліцы, стаіць многа кніг з вершамі беларускага паэта. Гэтыя кнігі чытаны-перачытаны, стракацяць паметкамі на палях. Таму што яны — даўнія і верныя мае спадарожнікі на працягу многіх гадоў. Я здымаю іх з паліцы ў тыя гадзіны, калі ў душы асаблівы настрой — урачысты і чысты, калі ёй больш за паветра і святло патрэбен нетаропкі дыялог з сапраўдным паэтам, чыё слова — слова розуму і дабрыні.

Для таго, каб паказаць веліч паэта, трэба вызначыць узаемаадносіны, у якіх ён быў са сваімі папярэднікамі і паслядоўнікамі, тое месца, якое ён заваяваў у агульным літаратурным працэсе, гэта значыць знайсці тое галоўнае, што ён дабавіў да заваёў папярэднікаў і што пакідае сваім нашчадкам. Але сутнасць гэтага пытання звязана з іншай праблемай: якія ўзаемаадносіны паэта з жыццём Айчыны (у аспекце мастацтва), паколькі сутнасць кожнай нацыянальнай літаратуры складае жыццё нацыі і цэнтральны герой яе — Айчына ў яе разнастайных праявах. Заслугі папярэднікаў Максіма Танка — паэтаў Беларусі Купалы, Коласа, Багдановіча надзвычай вялікія з пункту гледжання выбару шляхоў, руху айчыннай літаратуры. М. Танк глыбока вывучаў іх традыцыі. Аддаўшы шчодрую даніну павагі і любові сваім вялікім папярэднікам, Танк пачынае з новых бакоў разглядаць змест мастацтва. Захапляючыся сваімі папярэднікамі, ён вывучаў і сусветную класіку і зразумеў, што нацыянальны паэт павінен дасягнуць усебаковага адлюстравання рэчаіснасці, гэта значыць стварыць творы, якія шырока адлюстроўваюць жыццё.

**Гэта зямля — нічым не прыкметная.**
**Калі будзеце ехаць, пярэднія колы**
**Могуць захлынуцца балотам,**
**А заднія — пяском.**

**Калі будзеце араць,**
**Плуг можа выараць валун**
**Або гром забытай міны.**

**Захочаце будавацца —**
**Будзе шчарбіцца сякера ад куль,**
**Заселых у кожнай сасне.**

**І нікому не зразумець —**
**Чаму, развітваючыся,**
**Кожны з нас бярэ з сабой**
**Жменю гэтай зямлі.**

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі (верасень 1939 года) М. Танк працаваў у рэдакцыі абласной газеты. У гады Вялікай Айчыннай вайны, пакін[illegible]ы родны дом, малады паэт быў с[illegible]оўнікам франтавога і партызанскага [illegible]руку, і ў гэты трывожны час ён працягваў пісаць вершы.

У 1942 годзе апублікаваў першы буйны эпічны твор пра вайну [illegible] Янук Сяліба». У час вайны выходзіл[illegible] зборнікі вершаў «Вастрыце зброю» і «Праз вогненны небасхіл».

Вайна не разбурыла лірычную прыроду паэта. Праўда, ваенная паэзія М. Танка шчымліва сумная, але колькі ў ёй прагі любві, дружбы, шчасця! Паэт хоча гэтага для нас — чытачоў, а не для сябе: яго самога і яго равеснікаў вайна многага пазбавіла...

Рамантычнае светаадчуванне не дазваляе яго паэзіі зжыцца з духоўным застоем людзей. Творчасць М. Танка вядзе да тых крыніц, дзе бярэ пачатак праўдзівае слова паэзіі.

У вершах пра вайну М. Танк знаходзіць новыя адценні думкі і пачуцця, яго майстэрства дапамагае зрабіць самае цяжкае — перадаць настрой, прымусіць чытача амаль адчуваць апісанае, паўнату, шчырасць чалавечага перажывання:

**Хмары з захаду нізка плывуць,**
**Мы іх моўчкі і сумна вітаем.**
**Кожны ведае: слёзы нясуць**
**Яны з нашага роднага краю.**
**Далятаюць вятры з пушч глухіх,**
**З ніў далёкіх і спаленых сёлаў.**

**У асеннім галошанні іх**
**Чуем матчыну скаргу і голас.**
**Не пытае ніхто жураваў,**
**Што нясуць, пралятаючы міма.**
**Кожны ведае: родных сыноў**
**І чакае, і кліча радзіма.**

У вершах пра вайну паэт убачыў ніці, што звязваюць вайну на перадавой з бацькоўскім краем, перадаў трывожныя думы маці, якія чакаюць сыноў, жанчын, якія ў думках разам з мужамі і братамі ў баі.

У паэзіі ваенных гадоў поруч з матывамі пагрозы фашызму выразна чуецца вера ў перамогу дабра над сіламі зла:

**Беларусь, ты палаеш агнём.**
**Не закуць цябе ворагам-катам,**
**Покуль мы, твае дзеці, жывём.**
**І ў руках — аўтамат і граната,**
**Покуль мы, твае дзеці, жывём.**
**Покуль рэкі бушуюць прадвеснем.**
**І ў грудзях несціхана звініць**
**Пра цябе наша вольная песня.**
**Яшчэ вернемся мы і прыйдзём,**
**Беларусь, на прасторы шчасліва,**
**Каб ты зноў расцвітала і зноў**
**Хваляваліся золатам нівы...**

Несумненна, і такое вырашэнне тэмы вайны мела права на існаванне — і ўжо, па меншай меры, гэтыя вершы па глыбіні і шчырасці пачуцця не ўступалі банальнай патэтыцы асноўнай масы тагачаснай вершаванай прадукцыі. Блізкія ў нечым задушэўным вершам М. Ісакоўскага, яны праўдзіва адлюстроўвалі тое, што хвалявала мужных байцоў, для якіх перамога над фашысцкім зверам азначала і вяртанне ў родныя дамы, у любімыя краі.

Герой ваеннай лірыкі Максіма Танка і на фронце застаецца чалавекам, таму што ні на імгненне не забывае, за што, у імя чаго ён змагаецца. Вайна для яго не прызванне, а цяжкі, неабходны абавязак.

**Мы прайшлі праз пекла барацьбы,**
**Мы прабіліся на Беларусь ізноў,**
**Бо нідзе ніхто не мог забыць**
**Родных рэк, прастораў і палёў.**

**Хоць ваду мы з тысячы крыніц**
**Каскамі, далонямі пілі,**
**Але ў сэрцы прагу пагасіць**
**Па сваёй радзіме не змаглі.**

**І настаў доўгачаканы час.**
**Мы ідзем з вінтоўкай у руках,**
**Дзе заўчора хмарай саранча**
**Прапаўзла па залатых палях.**

**Мы варожай чорнаю крывёй**
**Змыем попел з абгарэлых ніў,**
**З гарадоў, разбураных ардой,**
**З сёлаў, што загінулі ў агні.**

**І разбудзім гэту шыр палёў,**
**Дзе жытоў зазелянее рунь,**
**І за мірнай працаю ізноў**
**Будзем з песняй сустракаць зару.**

**Фелікс БАХЧЫНЯН.**
**(Заканчэнне будзе).**



**Амаль сто дваццаць народных мелодый у рэпертуары фальклорнага ансамбля народных інструментаў Ляхавіцкага Дома культуры Іванаўскага раёна. Кіруе ансамблем 87-гадовы Віктар Прыбышчук. Дванаццаць гадоў назад ён узначаліў калектыў старэйшых сельскіх музыкантаў. З таго часу ансамбль — пастаянны ўдзельнік фальклорных святаў, фестываляў, заўсёды жаданы госць у вёсках раёна.**
**НА ЗДЫМКУ: іграюць удзельнікі фальклорнага ансамбля з Ляхавіч (злева направа) Мікалай ЛУКАШЭВІЧ, Іван ЛІНКЕВІЧ, Сяргей ШУМАК.**
**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## АДЗІН З НАЙВЯЛІКШЫХ МУЗЫКАНТАЎ У ГІСТОРЫІ ЧАЛАВЕЦТВА

# ТВОРЦА, ЯКІ АБАГНАЎ ЧАС

Сусветная музычная грамадскасць аднадушная ў думцы: Мусаргскі — адзін з найвялікшых музыкантаў на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. ЮНЕСКА аб'явіла 1989 год — Годам Мусаргскага, яго яркая душа, нацыянальнае мысленне жаданыя для сусветнай цывілізацыі. Невыказна прыцягальная яго рускасць пераадольвае ўсякія перашкоды, у тым ліку і моўны бар'ер, — не выпадкова ж усюды ў свеце яго шэдэўр — опера «Барыс Гадуноў» ідзе толькі на мове арыгінала.

Я спяваю Мусаргскага многа — і на радзіме, і за мяжой — і магу сцвярджаць: найвышэйшая духоўная дасканаласць і веліч яго музыкі захапляюць любую аўдыторыю — італьянскую, якая больш за ўсё цэніць прыгажосць мелодыі; нямецкую ці аўстрыйскую, якая вельмі прыдзірліва ставіцца да майстэрства; і многія іншыя — усюды Мусаргскі знаходзіць самы жывы і пастаянны водгук. Крыніца гэтага — у яго спагадзе, яго пяшчоце да блізкіх, яго таленце любові да сяброў-аднадумцаў з легендарнага саюза музыкантаў — «Магутная кучка», яго спачуванні да сваіх герояў — ці то будзе жабрак, ці то цар. Гэты талент спачування выліўся ў яго музыцы, у якой ён узняўся на вышыні агульначалавечага. Водсвет яго таленту і на яго дары як філосафа, літаратара, грамадскага дзеяча, драматурга. Ва ўсіх гэтых сферах Мусаргскі апярэджваў час — і як мысліцель, і як мастак.

У чым жа яшчэ яго веліч? Мусаргскі, як ні адзін іншы рускі кампазітар, зацвердзіў годнасць нацыянальнага музычнага мыслення ў чалавечай цывілізацыі. Яго опера «Барыс Гадуноў» увяла ў сусветную культуру кангеніяльную, але, на жаль, неперакладаемую трагедыю Пушкіна. Гармонія муз Мусаргскага і Пушкіна літаральна дыктуе выканаўцу і паходку, і жэст, і інтанацыю. Успомнім, напрыклад, вялікага Ф. Шаляпіна, які пакарыў увесь свет у партыі Барыса Гадунова. Успомнім хаця б яго легендарны маналог «Смуткуе душа». Радуецца народ, вітаючы ў Крамлі новавыбранага цара Русі, і раптам —

## *НАЛЕЖЫЦЬ УСЯМУ СВЕТУ*

# ГЕНІЙ ТАРАСА ШАЎЧЭНКІ

175 гадоў — занадта многа, калі мерaць адным чалавечым жыццём. І занадта мала — у маштабах сусветнай гісторыі. Але ж такія з'явы, як Тарас Шаўчэнка, ніколі не знаходзіліся ў мінулым, а заўсёды — толькі ў сённяшнім і будучыні. Відавочна, гэта доля тых нямногіх выбраннікаў лёсу, якіх прынята называць геніямі.

Тараса Шаўчэнку выбраў лёс духоўным бацькам украінскага народа. А можа, дакладней: народ выбраў яго сваім надзвычайным і паўнамоцным паслом для ўручэння вярыцельных грамат сусветнай супольнасці адносна сваёй самабытнасці?

У чым жа тайна феномена, калі імя Паэта становіцца раўназначным паняццю «народ», калі ён становіцца ў аднолькавай меры каштоўны і сваім сародзічам, і ўсім людзям на зямлі.

Лёс наканаваў будучаму паэту цяжкія выпрабаванні. У дзесяць гадоў ён страціў маці: яна згарэла на паншчыне. Праз паўтара года не стала бацькі. Вось так адзінаццацігадовым сіратой Тарас пакідае хату жорсткай мачахі і селіцца ў школе як памочнік дзяка.

Вялікімі і мудрымі настаўнікамі сталі для паэта народныя песні і кабзарскія думы.

У гэтых не толькі эмацыянальных, але і інтэлектуальных умовах фарміраваўся Шаўчэнка і як паэт, і як грамадзянін, і як палітычны дзеяч. Кірыла-Мефодзьеўскае брацтва, членам якога быў Тарас Рыгоравіч, — гэта не проста таварыства аматараў славянскай славеснасці, а палітычная арганізацыя, якая сваёй мэтай абвяшчала ліквідацыю прыгонніцтва і нацыянальнай няроўнасці, дваранскіх прывілей, аб'яднанне ўсіх славянскіх народаў у федэратыўную рэспубліку. У таварыства ўваходзілі лепшыя розумы тагачаснай Расіі, эліта яе, і калі нават у такім акружэнні Шаўчэнка вылучаўся на цэлую галаву, то па адным гэтым можна меркаваць аб яго інтэлектуальным узроўні. Ды сам факт, што ён бліскуча скончыў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, якая ў той час была цэнтрам майстроў сусветнай велічыні, катэгарычна адхіляе стэрэатып Шаўчэнкі як проста таленавітага лірніка. Магутны талент, які па параметрах здзяйсненняў блізкі тытанам Адраджэння, а па глыбіні ведаў у сферы чалавечага духу амаль роўны з энцыклапедыстамі, мастак высокага класа (толькі яго спадчына як жывапісца налічвае больш за 1 100 работ), адзін з роданачальнікаў нашай прозы, драматургіі і такога сёння папулярнага сінтэтычнага жанру, як эсэ, які валодае выдатнымі ведамі ў філасофіі, грамадскіх навуках, у антыцы, рэвалюцыянер па духу, справе і над усім гэтым геніяльны паэт — вось сапраўдны Шаўчэнка.

Адна з галоўных якасцей, якая паднімае Шаўчэнку на ўзровень сусветнага генія, — яго асаблівы талент, зачараваны на брацтва народаў. Так, ён больш чым любіў Украіну. Але гэта не сляпая апалагетычная любоў да адзінакроўнага толькі за тое, што ён украінец. Ні разу ў Шаўчэнкі не прагучала і намёку на якую-небудзь выключнасць свайго народа. Ён яго бачыў толькі ў сям'і вольнай, новай, роўным сярод роўных.

Творчасць Тараса Шаўчэнкі вельмі папулярная і распаўсюджаная ў Беларусі. На беларускую мову паэта перакладалі М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас. У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР нямала матэрыялаў, у якіх гаворыцца пра адносіны да Шаўчэнкі прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі яшчэ ў канцы XIX стагоддзя. Яго творчасць карыстаецца надзвычайнай любоўю ў беларускага народа і сёння. Многія вершы Кабзара перакладаюцца нашымі сучаснымі паэтамі на беларускую мову.

175-гадовы юбілей Тараса Шаўчэнкі шырока адзначаецца на Украіне, ва ўсім Савецкім Саюзе, за яго межамі. У многіх гарадах Украінскай рэспублікі адбыліся дабрачынныя канцэрты ўкраінскай народнай песні, зборы ад якіх пайшлі на ўзвядзенне помнікаў паэту ў Львове, Запарожжы і іншых гарадах. Сродкі на адкрыццё новых помнікаў Шаўчэнку паступілі ад тысяч украінцаў нашай краіны і з-за мяжы, напрыклад, з Канады і ЗША. Дарэчы, першы савецкі помнік украінскаму паэту быў адкрыты па ініцыятыве У. І. Леніна ў Петраградзе яшчэ ў 1918 годзе.

Тарас Шаўчэнка, яго творчасць належаць усяму свету. Вялікі ўплыў паэта на развіццё ўкраінскай літаратуры, іншых народаў СССР. Шырокі водгук знайшла спадчына паэта ў заходне- і паўднёваславянскіх краінах, яго творы выдадзены мільённымі тыражамі ў многіх дзяржавах.

Вучоныя славянскіх краін прысвяцілі Шаўчэнку многа навуковых даследаванняў, манаграфій, якія, як і выданні перакладаў яго твораў, выходзілі з 40-х гадоў XIX стагоддзя і да нашых дзён. Асабліва вялікая роля ў вывучэнні і папулярызацыі спадчыны Шаўчэнкі вучоных, пісьменнікаў і перакладчыкаў Расіі, Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, Югаславіі.

Сярод юбілейных мерапрыемстваў значнай падзеяй стала рэспубліканская навуковая канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел савецкія і замежныя вучоныя, у тым ліку з Італіі, Канады, ЗША.

Дзякуючы Украінскаму фонду культуры, створана новая экспазіцыя музея Шаўчэнкі ў Кіеве, заснаваны мемарыяльны музей славутага жывапісца і педагога, сваяка паэта Фоція Красіцкага, будзе ўзноўлена таварыства імя Тараса Шаўчэнкі ў Ленінградзе. Укладам у юбілейныя ўрачыстасці стане поўны акадэмічны збор твораў Шаўчэнкі ў 12 тамах. Выйдуць у свет таксама юбілейныя выданні яго кніг, у прыватнасці зборнік «Кабзар» (1840 год), што адкрыў новую эпоху ў гісторыі ўкраінскай літаратуры.

### Тарас ШАЎЧЭНКА

**Цячэ вада з-пад явара**
**Ярам на даліну.**
**Красуецца над вадою**
**Чырванню каліна.**
**Красуецца каліненька,**
**Явар маладзее,**
**А наўкол іх вербалозы,**
**Лозы зеляненюць.**
. . . . . . .
**Цячэ вада ды з-пад гаю,**
**Цячэ пад гарою,**
**Хлюпаюцца качаняткі**
**Паміж асакою.**
**А качачка выплывае.**
**З качарам за імі,**
**Ловіць раску, размаўляе**
**З дзеткамі сваімі.**
. . . . . . .
**Цячэ вада ўскрай гароду.**
**Вада ставом стала.**
**Браць ваду прыйшла дзяўчына,**
**Брала, заспявала.**
**З хаты пагуляць у садзе**
**Выйшлі бацька, маці,**
**Параіцца, ды каго б ім**
**Назваць сваім зяцем!**
*7 лістапада 1860*
*С. -Пецярбург.*

Пераклад
Рыгора БАРАДУЛІНА.



**У дамах многіх сельскіх жыхароў Лунінецкага раёна можна сустрэць малюнкі, акварэлі, цікавыя графічныя работы, аўтар якіх — трактарыст мясцовага саўгаса «Авангард» А. Стасюк. Увесь вольны час аддае Аляксандр Сяргеевіч свайму захапленню. Больш за ўсё любіць маляваць родную прыроду, запаветныя яе куткі.**

**З творчасцю самадзейнага мастака пазнаёміліся і жыхары Мікашэвічаў, дзе была арганізавана выстаўка яго твораў.**

**НА ЗДЫМКАХ: самадзейны мастак Аляксандр СТАСЮК; работа А. СТАСЮКА «Сакавік» (унізе).**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**



## ЮБІЛЕЙ ЦЫМБАЛІСТАЎ

Споўнілася трыццаць гадоў народнаму цымбальнаму аркестру Груздаўскага сельскага Дома культуры на Віцебшчыне. З гэтай нагоды ў раённым Доме культуры адбыўся вечар-ушанаванне самадзейных музыкантаў. У ім прынялі ўдзел работнікі Міністэрства культуры рэспублікі, шматлікія прыхільнікі таленту груздаўскіх цымбалістаў. Самадзейных майстроў сцэны ведаюць не толькі ў вобласці, але і ў Мінску, Маскве, у многіх гарадах і вёсках краіны.

У раёне ёсць яшчэ два народныя мастацкія калектывы.

---

унутраны маналог — непераадольная загадка для рэжысёра. Мусаргскі быццам бы прадугадвае нейкі невядомы жанр мастацтва. А для мяне рашэнне гэтай сцэны не ўяўляецца інакш, як сродкамі кіно. І ў гэтым драматургічным парадоксе Мусаргскі апярэджвае час. Такія магутнасць і неабдымнасць яго Тэатра, такі жывапісны, драматычны і глыбокі яго талент.

Мая ўвага да натуральнасці меладычнага дару Мусаргскага абвастрылася ў сувязі з маім удзелам у падрыхтоўцы поўнага акадэмічнага збору яго твораў, выхад якога ў савецкім выдавецтве «Музыка», упэўнены, стане падзеяй у сусветнай практыцы. Таму што да сённяшняга дня ў свеце спяваюць і іграюць Мусаргскага па вельмі разнаякаснаму нотнаму матэрыялу. Як практык і настаўнік вакалістаў, я палічыў за гонар увайсці ў рэдкалегію, што складаецца з вядомых кампазітараў, тэарэтыкаў і тэкстолагаў. Гэта будзе не толькі выданне сапраўдных аўтарскіх тэкстаў, але і факсімільнае ўзнаўленне ўсяго ходу стварэння партытур. Для замежных даследчыкаў прызначаны паралельныя тэксты на англійскай мове. Нарэшце яго забытыя ці скажоныя оперы «Саламба», «Сарочынскі кірмаш» і «Жаніцьба» змогуць загучаць у аўтарскім пераказе...

Жыццё Мусаргскага працягваецца і ў несціхаючых спрэчках аб рэдакцыях яго опер «Барыс Гадуноў» і «Хаваншчына». Мае гастролі ў буйнейшых тэатрах свету ўзбагацілі мяненазіраннямі: усюды схіляюцца да аўтарскіх версій. Даўно і несправядліва склалася горкая легенда пра беднасць аркестра Мусаргскага. Так узніклі інструментоўкі «Барыса Гадунова» М. Рымскага-Корсакава і Д. Шастаковіча, які апіраўся на рэканструкцыю тэкстолага П. Лама. Абедзве рэдакцыі, адыграўшы сваю гістарычную ролю, вычарпалі сябе. Высакародны і вопыт рэканструкцыі англічаніна Д. Лойд-Джонса, які звярнуўся да дзвюх вядомых аўтарскіх рэдакцый Мусаргскага і які быў вымушаны ў свой час пайсці на ўступкі музычным схільнасцям, якія панавалі ў той час. Першая рэдакцыя «Барыса Гадунова» ўпершыню ажыццёўлена ў акадэмічным тэатры «Эстонія» ў Таліне, і я шчаслівы, што ўдзельнічаў у прэм'еры гэтага спектакля. Цяпер і ў «Комішэ опер» у Берліне, і ў венскай «Фольксопер» прыглядваюцца да нашага вопыту. Я сёння спяваю ва ўсіх рэдакцыях і пераканаўся, што арыгінал Мусаргскага — гэта вяршыня.

У адносінах другога шэдэўра Мусаргскага — оперы «Хаваншчына», якую ў трагічных абставінах жыцця кампазітар не паспеў інструментаваць, упэўнены: у тэатры трэба ставіць рэдакцыю Д. Шастаковіча, рашуча адхіляючы інструментоўку Рымскага-Корсакава. Вядома, мне могуць запярэчыць і пашкадаваць аб страце з «залатога фонду» Вялікага тэатра СССР манументальных фрэскавых спектакляў рэжысёра Л. Баратава і мастака Ф. Федароўскага. Але, я перакананы, трэба абавязкова вярнуцца да аўтэнтычнага Мусаргскага!

Напярэдадні юбілейных урачыстасцей у Доме-музеі Мусаргскага ў Наумаве, у мацярынскай сядзібе, размешчанай у Пскоўскай вобласці, створана новая экспазіцыя. Гатовы вялікі план стварэння ландшафтнага запаведніка на берагах Жыжыцкага возера, якое аб'ядноўвае тры вёскі: Наумава, Пашыўкіна і Карава. Бацькоўскае папялішча ў Караве яшчэ ў пачатку XX стагоддзя было амаль зруйнавана. Тут, на ўзгорках, дзе захаваліся толькі здзічэлыя фруктовыя дрэвы ды бэз, што некалі зазіраў ў вокны спальні малога Мадэста, дзе над сажалкай схіліліся пакручаныя часам старыя вербы, адкрыты помнік Мусаргскаму скульптара В. Думаняна. Ён пастаўлены на ўзвышшы. Гэта месца прыгожае, прасторнае. Тут своеасаблівы акустычны феномен. Я спрабаваў нават спяваць на гэтым узгорку. І зімой у мароз, і летам, і восенню я абавязкова бываю ў запаведніку, дапамагаючы музею. Неаднаразова выступаў тут разам з А. Абразцовай, хорам У. Мініна і мясцовым фальклорным ансамблем.

З узгорка бронзавы Мадэст Пятровіч будзе бачыць маёнтак-музей у Наумаве, суседняе Пашыўкіна, на старых могілках якога пахаваны яго бацькі, царкву Адыгітрыі, дзе яго хрысцілі...

Мусаргскі ўсё сваё жыццё блукаў па чужых кутах, няхай жа адродзіцца яго бацькоўскі дом. Паводле паданняў, кампазітар часта падымаўся на гэтае ўзвышша, любуючыся роднымі прасторамі. Няхай цяпер ён застанецца тут навечна...

**Яўгеній НЕСЦЯРЭНКА,**
**народны артыст СССР, лаўрэат Ленінскай прэміі.**

# крынічка



Цяжкая партыя!

Фота Г. СЯ... ВА.

ЦЁТКА

## ПАКУЛЬ НЕ Ў РУКАХ — НЕ КАЖЫ, ШТО ТВАЁ

Ішоў бедны мужычок цераз чыстае поле, убачыў зайчыка, усцешыўся і кажа: «Во дзе мне бог шапку паслаў! Падкрадуся я да зайчыка, заб'ю яго, занясу ў мястэчка прадам і за гэтыя грошы куплю свінку. Свінка апаросіцца будзе дванаццаць парасятак. Парасяткі вырастуць і прывядуць зноў па дванаццаць парасятак. Тады я ўсіх выкармлю, пакалю, свіран мяса налажу, мяса прадам і за грошы во якую хату пабудую, во які буду багаты! Сам тады буду, пажываць ды мядочак папіваць! Ото будзе жыццё!»

І так моцна крыкнуў, падкраўшыся да зайчыка, што зайчык прачнуўся і ўцёк.

Рыгор ІГНАЦЕНКА

## ДУПЛЯНАЧКА

Дзьмуў лёгкі веснавы ветрык. Бяроза, пад якой я сядзеў, тонка звінела крышталёвым звонам.

Учора прайшоў першы дождж. А ноччу падмарозіла. І дажджавыя кроплі на галінках ператварыліся ў ільдзінкі. Яны біліся адна аб адну і звінелі.

Слухаючы крышталёвы звон над галавой, я агледзеўся. Справа ад сябе ўбачыў струхлелую асінку, а ў ёй — дупельца.

Цёмны хвосцік то знікаў у дупельцы, то зноў паказваўся. На зямлю пад асінку сыпалася жоўтая пацяруха.

Вось яно што! Аказваецца, нехта сабе дом будуе. Але хто? Якая птушачка можа выдзеўбці дупельца, у якое з цяжкасцю два пальцы прасунеш?

Я падышоў бліжэй, падняў з зямлі сучок і кінуў у асінку. Кінуў, а сам за елачку схаваўся.

Хвосцік імгненна знік. З дупельца выпырхнула птушачка. Села на галінку і спалохана заціінькала.

Гляджу: сініца-гаечка!

Вось ужо не думаў, што сініца цяслярскай справай займаецца. Дзяцел — вялікі, дзюба ў яго моцная — сапраўднае долата. А гэта дупляначка сама з арэх, дзюбка слабенькая, тонкая, як шыльца. Аднак таксама ў лясныя цесляры нанялася.

Я ціха адышоў ад асінкі, каб не перашкаджаць птушачцы працаваць.

## СМЯШЫНКА

Маленькі Вова глядзеў тэлевізар. Раптам ён ускочыў і сказаў тату:

— Я пайду вады нап'юся, а ты папільнуй, каб кіно не скончылася.

Ніна НАСУЛЬСКАЯ

# УНУЧКА

*КАЗКА*

Жылі-былі дзед і баба. Дзяцей у іх не было. Пайшла неяк баба ў агарод і знайшла там, у капусце, дзяўчынку. Пыталі, пыталі, чыя дзяўчынка, так і не дапыталіся. Засталася яна ў дзеда з бабай.

— Як жа мы назавём яе? — пытае баба. — Можа, Галяй?

— Не! — пярэчыць дзед. — Вунь у суседа ўнучка Галя. Дык дома не стыкаецца. Вядра вады старым не прынясе.

— Тады, можа, Насцяй?

— У другога суседа ўнучка Насця. Дык адно спявае ў садзе. Не, каб пайсці ў агарод ды градку выпалаць, дапамагчы бабулі...

Дзед з бабай імёны перабіраюць, ніяк выбраць не могуць. А ўнучка гультайкай расце, толькі есць ды спіць. Імя няма, дык людзі яе Унучкай і завуць.

Састарыліся дзед з бабай і памерлі. А Унучка даела ўсё, што было, і сядзіць галодная. Градку капаць не хочацца. Ускапала б, можа, ды садзіць не ўмее. Пасадзіла б, можа, ды чакай пасля, пакуль што вырасце.

«Пайду ў лес, — рашыла Унучка. — Там ніхто нічога не садзіць, само расце. Наемся ягад, назбіраю грыбоў...»

Так і зрабіла. У лесе наелася ягад і пачала грыбы збіраць. Шукала, углядалася ў зямлю, а грыбоў — няма. Стамілася, лягла пад ялінай адпачыць. А там, на яліне, вавёрка грыбы сушыла-перасушвала. Зніме з аднаго сучка ды на другі перанясе, дзе болей сонейка.

«Ага, — думае Унучка, — не там я шукаю грыбы. Яны ж на дрэвах растуць. Вавёрка вунь колькі назбірала».

Палезла яна на адно дрэва, на другое — няма нічога. А як злазіла — спаднічку парвала. Загаласіла на ўвесь лес:

— Хоць бы хто пашкадаваў мяне, сіраціну!..

Вавёркі пазбіраліся, дзівяцца. Потым адна і пытае:

— Якое ў цябе гора?

— Дзед з бабай памерлі, — жаліцца Унучка. — Карміць мяне няма каму.

Вавёрка і кажа:

— Дзяўчынка ты вялікая, прыгожая. То не лянуйся, працуй і добра жыць будзеш...

Узялася Унучка за розум. Дома ўсё робіць, старым дапамагае. І людзі палюбілі яе, шчырую працаўніцу, і назвалі Любай.

Уладзімір СКАРЫНКІН

### ЭНІКІ-БЭНІКІ

*ЛІЧЫЛКА*

**Энікі-**
**Бэнікі**
**Рэзалі**
**Венікі,**
**Хораша**
**У лесе**
**Было**
**Усім.**
**Венікі**
**Звязваў,**
**Казкі**
**Расказваў**
**Энікам-**
**Бэнікам**
**Кот**
**Максім.**
**Ты**
**Ленаваўся**
**Па вецце**
**Хадзіць —**
**Будзеш**
**Вадзіць.**

Таццяна КЛЯШТОРНАЯ

### НОЧКА

**Ночка добрая ішла,**
**Бачыць: хата без святла,**
**А ў калысці там — Ірынка,**
**Не засне ніяк дзяўчынка.**
**Покуль казку ёй шаптала,**
**Дык сябе закалыхала.**

Кандрат ЛЕЙКА

### НАД КАЛЫСКАЮ

***Ой, люлечкі, люлі,***
***Прыляцелі куры,***
***Селі на варотах***
***Ды ў чырвоных ботах.***
***Сталі сакатаці,***
***Трэба есці даці:***
***Адной піражка,***
***Другой тваражка,***
***А трэцяй гарошку,***
***Каб бавіла Зоську.***

### САРОКА

***Сарока-белабока***
***Па хаце скакала,***
***Рагатала, вярцелася,***
***Дзетак забаўляла.***
***На ёй бела фартушына,***
***Чорненька сукенка,***
***А гаворыць і шчабеча***
***Дробна, як паненка.***

### БУСЕЛ

***Бусел, бусел-галяндач***
***Пайшоў жыта аглядаць,***
***Яшчэ жыта зеляно,***
***Бусл ногу адняло.***
***Скача бусел на кію,***
***Кляне доленьку сваю.***

ПРЫПЕЎКА

Ішлі Тодар з Тадораю,
Знайшлі лапаць з абораю.
Ой ты Тодар, я Тадора,
Табе лапаць, мне — абора!

## ПРЫКАЗКІ

У няўмекі рукі калекі.

Паволі едучы, далей будзеш.

Не праскочыўшы рэчкі, не кажы гоп.

Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Чужым розумам сыт не будзеш.

Кошка мышцы не таварыш.

Дзе кветкі, там і мёд.

Другіх слухай, а свой розум май.

...ла язык доўгі, ды гаварыць не можа.

Як ты да людзей, так і людзі да цябе.

## ЗАГАДКІ

Кішэні не мае,
А сонца хавае.
Страху не мае —
Ад ветру ўцякае.
Вачэй не мае,
А слёзы пралівае.

(Хмара).

З выгляду — мячык
на восі стаячай,
а сіла такая —
усю зямлю трымае.

(Глобус.)

Чатыры браты пад адной шапкай стаяць.

(Стол.)



Давай пазнаёмімся.

Фота Э. ЭЛЬКСІНА.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 326